1611C

# БЕЛАРУСКІ
# ЛЕТАПІС

№ 3 ВЕРАСЕНЬ 1938 г. ГОД III



НАРАЧАНСКІ РЫБАК

47

## ЗЬМЕСТ







СКЛАДКІ: 3 зл. на год; 1 зл. 50 гр. на паўгода; асобны нумар 30 гр.; Заграніцу ўдвая даражэй.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вул. 3-8. Конто: Rozrachunek 91.



Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Mickiewicza 22-a.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

**КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

**№ 3** **ВЕРАСЕНЬ 1938 г.** **ГОД III**

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

## КІНУ СВАЕ ДУМЫ

Кіну свае думы жураўліным лётам —
хай лятуць да сонца, у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
і пра тое сонца буду ціха граць.

І хоць скасьцянеюць пальцы на марозе,
я праз усю восень не пакіну струн,
хай з зімой завеі сядуць на парозе,
ці ў барох сасновых плачуць, як лясун.

А як пашарэе белы сьнег пад плотам —
патужу цымбалаў згучны звон стальны,
на струнах, залітых раньня пазалотай,
я вясну зайграю з ветрам маладым.

І у хатах людзі вечарам лучынным
пра вясну, пра сонца势 стануць гаварыць;
пойдуць на ўзгоркі з туманоў лагчынных,
каб вясьняным сонцам грудзі апаліць.

Дык ляціце-ж, думы, жураўліным лётам,
каб хутчэй сустрэць вас з сонцам і вясной!—
Я іграць ня кіну пад лазовым плотам —
рукі не самлеюць, воч ня сплюшчу сном!

1937

---

ІВАН ФРАНКО

## КАВАЛЬ

Ляжаць хаты у даліне,
а над імі туман сіні;
на узгорку, край сяла,
стаіць кузьня каваля;
звон у кузьні раздаецца,
ў каваля палае сэрца,
ён б'е молатам, пяе,
заклікае да сябе:
— ідзеце, людзі, з хат і з поля,
тут куецца шчасьце, доля,
працірайце вочы з сну,
выхадзеце з туману.
Туманы ніжэй аселі
над сялом і пацямнелі,
разьліліся па палёх,
каб зацьміць шляхі дарог,
каб закрыць людзям сьцяжыны,
што ў гару ідуць з даліны
ў тую кузьню, дзе куюць
шчасьце, долю замест пут.

*З украінскай мовы пераклаў М. ТАНК*

АНДРЭЙ ЧЭМЕР

# ПАД ГОМАН ХВАЛЯЎ

*З падарожжа над Нарач*

Ясьней працуе думка, вастрэй глядзяць вочы, шырэй дыхаюць грудзі... Едзем на Бацькаўшчыну, туды, дзе шырака раскінулася беларускае возера Нарач.

Мінаем Беласток, Горадзен. За Вільняй дарога штораз часьцей бяжыць лесам, радзей сустракаюцца вёскі і мястэчкі. За вокнамі шумяць хвоі, над вагонам кружаць птушкі, плывуць лёгкія белыя хмаркі.

Нарэшце, пасьля доўгіх гадзін язды і чаканьня — Нарач!..

Поўнач. Па глыбокім пяску брыдзём на вольны бераг возера разлажыць палатку (палатняны шалаш). Вялізарнае люстра Нарачы шырока раскінулася між хваёвых лясоў і рыбацкіх вёсак. Далёка на захадзе паланее чырвоным заравам неба, — гэта адзін з лясных пажараў, якія тут часта здараюцца ад сушы і неасьцярогі.

Палатка гатова. Па скромнай, адзінокай вячэры кладуся супачыць. Навакол цішыня, толькі часам лясная птушка залапоча ў гальлі, ды плюхне неспакойная рыба. Тысячы зораў з прадвечным спакоем углядаюцца ў шырокія хвалі Нарачы, круглы месяц серабрыстым сьвятлом агартае глыб возера, лясы і сялібы.

Назаўтра раньні халадок зрывае з цёплае пасьцелі. Сонца агністаю куляй выплывае з чырвані кіпучых нібы расплаўленае жалеза хваляў Нарачы. З поўкілямэтра йду ад берага ў абоймы чыстае, як крыштал вады, каб выкупацца ды паплаваць.

Неўзабаве бліскае агонь і цераз некалькі хвілін сык пары абвяшчае, што гарбата гатова.

Возера паволі ажывае. На хвалях зьяўляюцца белакрылыя парусныя лодкі, рыбацкія і экскурсійныя чаўны. На бераг высыпаюцца сотні летнікаў, якія прыехалі над Нарач шукаць прыгодаў і адпачынку.

Ня ўсьпеў я скончыць свае скромнае „трапезы“, як чую за сабою вясёлую беларускую гутарку. Гутарку, якая ня зусім мне спадабалася...

— Вось таксама нейкі... прыехаў чорт ведае скуль і рассеўся над возерам, быццам у сваёй „chałupie“... — казаў адзін з маладых праходзячых хлапцоў.

Устаў я са злосьцю, гатоў давясьці, што я тут ня меншы гаспадар чым яны, — ды ледзь не падскочыў з прыемнага зьдзіўленьня. Хлапцы аказаліся маімі блізкімі таварышамі па гімназіі; — прыехалі з Вільні пабыць пару дзён над возерам і ваколіцай, адпачыць пасьля апошніх экзамінаў.

Са сьмехам з неспадзяванае сустрэчы прывіталіся, пытаньні скуль, куды і як, пасыпаліся як з рукава. Ведама — больш чым 7 гадоў ня бачыліся!..

Пастанаўляем разам аглядзець Нарач і бліжэйшую аколіцу. Пехатою мінаем розныя прыбярэжныя „обозы“ і „калёніі“, даходзім да сяла Купы. Тут, старгаваўшыся з натрапленым шофэрам, едзем на ўсход, да возера і мястэчка Мядзел і да Гатавіч.

Яснаю стужкай уецца дарога над берагам. Расхінаецца цудоўны від на Нарач і берагі. Мінаем зялёныя прыбярэжныя вёскі, узьбягаем на ўзгор'і, ападаем у даліны, прыглядаемся багатаму краявіду. Возера шуміць і гамоніць, белыя грабяні б'юць у бераг. Затрымліваемся на высокім пяшчаным узгор'і. На доле, злучаныя сіняю стужкаю рэчкі, тры вазёры — Нарач, Мястра і Мядзел — нібы сястрыцы выцягаюць да сябе далоні. Лясы аксамітнымі дыванамі агартаюць серабрыстую гладзь вады. Вёскі і пасёлкі, лугі і палеткі ператыканыя сьцежкамі, твораць гарманічную тканіну прыгаства. Навакол нас акопы... Тут у Вялікую вайну адбываліся жорсткія баі між немцамі і расейцамі. Нямала палягло тут і беларускіх галоў за чужыя справы... Самаход едзе далей. Вецер раскідае валасы, гарачаю хваляй б'е па твары.

У пэўнай хвіліне спасьцерагаем... Што-ж гэта такое? Міраж?... Фантазія?.. Не! Гэта найпраўдзіўшая ааза, толькі не на пяску а сярод вады... Прыгожыя пальмы шырокімі каронамі вабяць зрок турысты, навакол вастраўка шуміць і пеніцца хваля. Дзеліць нас ад яго паўкілямэтравая паласа вады.

Гэта выспа каханьня, або Чартоўская выспа, прыгожая, як казка. Кажуць, што закаханыя пары багатых вяльможаў шукалі тут адзіноты; кажуць, што ня мала тут здарылася трагэдыяў... Глыб возера нічога ня скажа, маўчыць лес і неба... Нядаўна, калі перавязьлі на выспу пасьвіць стада авечак — у начы ваўкі пераплылі возера і выдушылі цэлае стада.

Але вось і мястэчка Старое Мядзела. Маляўніча раскінуліся на ўзгорку хаты і сьвятыні, парэзаныя вузкімі вулачкамі. У агародах і садох стагоднія дубы і ліпы ўглядаюцца ў неба буйнымі вяршынамі. Над самым возерам стаіць татарская мячэць. Ня шмат тут асталося татараў, ды й тыя мову і звычаі перанялі ад мяйсцовых беларусоў. Аглядаем ісламскую сьвятыню. Скромны дзеравяны будынак, усланы ўнутры дыванамі, утрыманы старанна і чыста. Для жанчын асобнае мейсца, аддзеленае дзеравянымі кратамі. На сьценах некалькі татарскіх



НАРАЧ ВЕЧАРАМ

абразоў і арабскіх надпісаў. Стары, даўгабароды мула (вясковы рымар) уваходзячы скідае боты.

Чытае нарасьпеў выняткі з Корану. Сумная ор'ентальная мэлёдыя разьлягаецца ў шэрых сьценах нібы плач за страчанай бацькаўшчынай, нібы рэха далёкай мінуўшчыны... Пасьля пабеларуску паясьняе прачытанае.

Ізноў выходзім на шырокі прастор вады і сонца.

Гатавічы. Аглядаем прыгожа пастаўлены турыстычны будынак, акружаны густым хваёвым лесам. Сонца хіліцца да захаду, вада жывым срэбрам плавіцца ў праменьнях; з акна адазвалася тужлівая мэлёдыя песьні...

Зараз за Гатавічамі ляжыць возера Бляда. Невялікае, але больш дзікое. Толькі лес ды вада, зарошшая пры беразе трысьнікам. Дно гразкае і глыбокае. Пасьля кароткага купаньня ізноў гучыць матор— вяртаем над Нарач.

Над возерам месьціцца гадаўляная фэрма канадыйскіх лісіц і сушня рыб. Заглядаем да чорных, як даўгавушыя сабачкі лісіцаў, якія зусім не ўцякаюць ад чалавека і бегаюць паміж падобнымі да вульляў будкамі.

Пагода зьменная. Яшчэ ўчора было цёпла і сонечна, а сяньня неба ахінулі хмары, падуў халодны вецер. Раптоўна і грозна набліжаецца бура. Хутка ўмацоўваем нашыя палаткі, хаваемся ў сярэдзіну. Бліскае маланка, возера гамоніць гнеўна і магутна.

Вецер штораз мацнейшы, штораз раптаўнейшы сьвішча і енчыць бязустанку. Зрываецца віхор, маланкі разьдзіраюць неба, грымоты тысячным рэхам напаўняюць цемень начы. Трывожныя словы перабягаюць з вуснаў на вусны, непакой закрадаецца ў сэрца. Раптам гучны трэск — і чуем шум падаючага дзерава... Словы замерлі на вуснах... Ураган!.. Стогне лес і Нарач, пена навальніцы бомбардуе брэзэнт палаткі. Зноў трэск і лопат... У сіняватым сьвятле маланкі спасьцерагаем шырокую плахту сарванага шатра суседняга абозу... Лес гудзе і стогне, вые віхор, страляюць грымоты... Вада ракою плыве пад нашым сховам.

Гэтай начы ніхто не самкнуў вока, ніхто не скарыстаў з вакацыйнага адпачынку...

Пасьля чулі мы ад рыбакоў, што такое буры не памятае Нарач ад 30 гадоў.

Аднаго дня выбіраемся ў суседняе мястэчка Кабыльнік. Гутарым з прыехаўшымі на торг сялянамі. Навакол чуваць толькі беларуская мова, а ў касьцеле і царкве таксама самыя беларусы. Жывуць тут людзі не багата. Зямля благая, а дарогі яшчэ горшыя. Вельмі мала роднае інтэлігенцыі. Пацяшаем дзядзькоў, што будзе лепш, ня трэба траціць надзеі...

У мястэчку таксама большасьць беларусоў, крыху жыдоў, крыху палякоў. Па дарозе спатыкаем сялянскія хурманкі, чуем выключна беларускую мову. Вось тут патрэбна родная школа, родная кніжка і газэта!

Час бяжыць хутка. Неўзабаве надыходзіць пара ад'езду. Разьвітваюся з таварышамі, уваходжу ў вагон. Цягнік рушыў... Хаваецца за лесам гульлівае возера і парусы лодак, ціхне гоман хваль.

ЁУНАС ПЯТРАЎСКАС

# ПОТ ЗЯМЛІ

У гэтым разказе гаворыцца аб тых жуткіх часох з гісторыі літоўскага народу, калі царскі ўрад забараніў цалком усякі літоўскі друк (так, як і беларусом забараніў беларускі). Прыходзілася нелегальна, кантрабандай дабываць з заграніцы свае кніжкі і газэты. Ды, нягледзячы на жорсткія прасьледы, на турмы, ссылкі ў Сібір, на катаргу за чытаньне літоўскіх кніг, — тысячы ахвярных сялян - нашэльнікаў дастаўлялі кнігі, а ўся Літва хаваючыся, начамі, чытала сваё роднае слова. У запечку, за калаўротам маці пры лучыне вучыла дзяцей тайны роднай граматы з забароненых лемантароў; такая тады была літоўская „школа“. Было так праз 40 гадоў — ад часоў Мураўёва, каторы гэтую забарону ўвёў, да 1905 году, калі дзякуючы ўпорыстаму змаганьню ліцьвіны дабіліся адноснай свабоды свайго друкаванага слова.

*А. Г.*

Стрымаўшы каня, павярнуў плуг у бок; цяжка адкашляўся, і ацёршы абраселы потам лоб, пагнаў каня далей.

І так ціха гнаў баразну за баразной; рэзаў усё новыя скібы ральлі. А вароны неастаючыся ішлі сьледам за плугам і зьбіралі чарву.

За плячыма і перад вачмі вясна: зарунелыя палеткі, вароны і зелянеючы лес.

Зямля прасіла працы. Ей патрэбны быў плуг, конскія капыты і людзкі пот.

Калі Янкус перагнаў апошнюю баразну і, адкінуўшы плуг, акінуў вокам палі — чарнелі толькі ягоныя скібы. Быў першым.

Зьбіраўся да хаты, але нешта прыпомніўшы, глянуў у лес. Вочы прытухлі. Прыгорбіўся мацней. Задумаўся.

— Ня прыходзіць — прагаварыў праз сябе.

Янкус непакоіўся. Пачаў усё часьцей аглядацца на лес. Напружыў слых, ці не пачуе трэску сукоў. Але было ціха. На'т і вецер перастаў дзьмуць, быццам знарок усьцішыў прыроду. Толькі часам цішыню веснавога падвячорка муцілі пралятаючыя стадамі вароны.

Ужо і туманы павісьлі над лагамі. Пацела зямля. Ейны пот мяшаўся з потам конскім і чалавечым і падымаўся над ральлёй.

— Ня прыходзіць... — паўтарыў.

— Уу-у-уу!..

Прыляцела лесам рэха кугаканьня савы.

— У-уу-у...

Паўтарыў савінным голасам Янкус, загарэліся ягоныя вочы. Гэта быў умоўны знак.

Калі зусім сьцямнела, Янкус выпраг каня. Прыгорблены чалавек вялікімі крокамі прыбліжаўся полем. Падыйшоўшы да Янкуса, адсапнуўся, плюнуў і, скінуўшы з плеч вузялок, прагаварыў:

— Пуд.

— Што? Газэты, кнігі?

— Напалавіну — адказаў.

За часіну, двое мужчын ішло побач і гаварыла аб тым, як дву-

галовы чорны арол трымае сьціснуўшы вольны вецер палёў, заглушыў песьню, глуміць усю краіну.

І цярпела Прыбальтыя. Цярпелі шырокія Бальтыйскіх берагоў палі. З загонамі, вёскамі, хацінамі і людзьмі цярпела Прыбальтыйская краіна.

— Чалавека могуць забіць, але думку не задушаць, — адазваўся Міхась.

— Учора жандары чалавека пакрывавілі, — сказаў Янкус, — за тое, што ў воласьці палітоўску гаварыў. Бачыў як гналі.

І ізноў абое змоўклі. Ішлі плячо ў плячо гледзячы чорнай начы ў вочы. А цёмная вясьняная ноч хавала Міхася і Янкуса. Хавала і вёскі ад жандарскай нагайкі.

— Ужо птушкі стадамі лятуць з выраю — перарваў цышыню Янкус.

— І вятры цяплейшыя дзьмуць.

— Бачыш, вясна...

Павеяў вецер і прынёс пах пракішшых балот.

— Паруе зямля.

— Цёплыя паўднёвыя вятры прынясуць хмары. Спалошчуць зямлю. І будзе лягчэй дыхаць. Зарунеюць палі. Зазелянеюць паляны. І будзе ўраджайны год.

У календары было тады напісана: т ы с я ч а д з е в я ц ь с о т ы.

---

— Ма-ма. Зя-мля. Пра-ца.

Водзячы пальцам па кнізе чытаў Альгюк. Смаркатка слаба асьвяціла балонкі кніг і твар Альгюка.

Кніга і газэта былі загнаныя ў падзямельле, у цёмны запечак.

— На-ша-я зя-мля...

Альгюк чытаў. А на лобе высыпаў пот. Пацела і ўся краіна. Чытала начамі, калі засынае зямля і чуваць стукат конскіх капытоў. Пачуўшы іх, крычалі:

— Жандары!..

Маланкаю, ад акна да акна, з вёскі ў вёску, разносілася жуткая вестка:

— Жандары...

І плакала краіна — над хацінамі павісла жандарская нагайка.

Аднойчы, калі праз вокны глядзела цёмная асеньняя ноч, а калёсы грузьлі ў каляінах, у шыбы Янкусавых вокнаў пастукала страшная рука. Чужыя пальцы скавалі абедзьве Янкусавы рукі і вывелі размоклымі дарогамі ў жуткую асеньнюю ноч.

Валачылі Янкуса па турмах. Ганялі яго з места ў места. Многа абяцалі, каб толькі сказаў, дзе прадае кнігі і газэты. Чатыры гады ня бачыў сваіх загонаў. Але Янкуса не маглі ўламаць, толькі заламалася ягонае здароўе. Калі вярнуўся дамоў, пляваў крывёю.

І цяпер, калі чуў свайго сына, чытаючага словы, сьціскалася яму з радасьці сэрца. Вычытаная сынам родная мова плыла з няжывой, нярухомай паперы і літараў. Яе гукі напоўнілі радасьцяй хату і людзкое сэрца.

— Ведаеш, Міхась, — адазваўся Янкус, — я мо' ўжо не прычакаю тых радасных дзён, калі збудзіцца наш край. А так яшчэ хацеў-бы пабачыць вас, працуючых вольнаму народу. Гэты час бліжыцца. Зерне, пакуль праб'ецца да сонца, прарастае яшчэ ў зямлі...

— Дачакаеце, дзядзечка, — успакаіваў яго Міхась.

І ізноў змоўклі. Толькі Альгюк чытаў склад за складам, слова за словам. Чэрпаў розум з няжывой паперы, з нямых літар, якія захаваную мудрасьць адкрывалі толькі тым, каторыя іх пакахалі.

Раптам пачуліся за вокнамі быццам крокі.

— Ці ня вецер веснавы ў сянёх стукоча?

І Альгюк чытаў далей.

Ізноў паўтарылася. Чуліся крокі і конскія капыты. Усім знаныя конскія ўначы капыты!

Янкус застыў на мейсцы. А ў Альгюка абарваліся словы.

— Міхась, скарэй — на хату. Стуль зьлезеш па лесьвіцы — і ў поле.

— Але-ж лезьце вы, дзядзечка, — працівіўся.

— Міхась, ты малады. Табе трэба працаваць. Цябе чакаюць. Німа часу. Ужо ідуць...

Міхась шчэз на цёмным стрыху.

Скаванага Янкуса вывялі жандары ў вясьняную ноч. Ператрошшы перад тым хату і знайшоўшы літоўскія кнігі, дапытываліся таго, каторага людзі звалі Міхасём, і каторага яны ўжо здаўна шукаюць. Але Янкус нічога не сказаў. Нават сьлёзы не пакаціліся па пааранай маршчынамі твары. Абняў толькі сына, прыцісnуў да грудзей і сказаўшы — незабывайся, Альгюк, бацькі — выйшаў.

Дарма Альгюк з разьнятымі рукамі галасіў за бацькам. Бацькі ўжо ня было. Праглынула яго пахучая вясной ноч.

Словы, што чытаў Альгюк, абарваліся, як нітка ў ставох, калі ў іх тчэ матка. Але яны гучэлі там, у хаце. А вецер нёс словы загонамі, лясамі і будзіў усю краіну.

---

Ішлі дні. Вясьняныя. Зерне, смагнучы сонца, прабівалася з чарназёму і варажыла летні ўраджай.

Прыляцелі кнігаўкі.

Вясна шырокімі зепнямі абхапіла ўвесь край. У кустох крычэлі птушкі. У сэрцы будзілі радасьць зазелянелыя бярозы і сінія пралескі ў лясох. А бусел правіў на Янкусавай хаце гняздо і клікаў у поле вёску.

Але каля палёў мала хто хадзіў. Дужэйшых мужчын зьмяла жандарская рука. Іншыя хаваліся па балатох. У недаступных дрыгвянішчах моклі мужчыны і жанчыны.

Пуста было ўва ўсей краіне.

Таго лета людзі бачылі апаясанае жоўта-чырвоным кругам сонца. Адны прарочылі голад, іншыя вайну, а трэція казалі, што часы палепшаюць.

І пацяшалі так сябе людзі, што асталіся па хатах. Дзірванела ральля.

Аднойчы (гэта была раньняя маёвая раніца), Альгюк — той Янкуса сын — вышаў на ўзьмежкі брадзіць па туманох, шукаючы бацькі. Бо-ж у хаце так было сумна. І ня было чаго есьці. Суседзі, у якіх жыў, былі чужыя. Ня прыхінулі пабацькаўску. Ды і самым хлеба неставала.

З дзяцінай надзеяй верыў, што адшукае свайго тату, бо знаў, што павялі на ўсход. — Можа спаткаю вяртаючагася — думаў — можа адпусьцілі.

Дык і йшоў на ўсход. Ведама — бацькі так і не спаткаў. Чуў толькі раньняй зязюлі голас. Альгюк пытаўся, як доўга будзе жыць. Зязюля кукавала. Альгюк лічыў. Лічыў аж нястала яму пальцаў да лічэньня.

Ідучы лугамі ўвайшоў у лес, на простую шырокую дарогу. Абапал дарогі пасьвіліся каровы. Многа кароў. А там далёка ягоны бацька — Янкус — ідзе дарогаю. Альгюк ідзе, ідзе і ня можа да яго дайсьці.

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

Янкусаў сусед едучы рана з млына, знайшоў ляжачага на дарозе Альгюка. Усадзіўшы ў воз, скора павёз да дохтара.

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

У такую вясьняную раніцу, калі паравала адсырэўшая ў начы зямля, пранясьліся па загонах трывожныя галасы:

— Вінцуук...

— Марта!

— Ужо вядуць...

Пры дарозе стаялі людзі і чакалі ідучых. Маткі плакалі. Дзёрліся дзеці. На вуснах усіх былі жорсткія словы:

— На Сібір...

Гасьцінцам, абторканым бярозамі і пахілымі вербамі, доўгім шнурам цягнулася грамада мужчын, закаваных у ланцугі. Ішлі маўчком. Спушчаныя вочы некаторых тухлі, то ізноў надзеяй загараліся.

Янкус ішоў сьцежкай. Хацелася яму адарвацца, ніцма пасьці на зямлю, цалаваць яе, пакуль боль у грудзёх ня прытухне. Гэта-ж ён— яны ўсе — лілі пот для гэтай зямлі. Гэта-ж тая родная зямля дала ім сілы жыцьця: з удзячнасьці, мачылі яе сваім потам.

Але путы трымалі і цягнулі ўсіх бярозавым шляхам наперад.

Праводзілі іх вялікія грамады. Уся краіна глядзела на адыходзячых. Калі ішлі праз вёску, каля плоту самлела маці, бо бачыла адарванага сына.

І плакалі маткі, галасілі. Клікалі помсту неба:

— Не аддадзём сыноў! Не аддадзём!

Але жандарская нагайка засьвістала па жыцьцём паараных шчоках. Маці скленчыла.

— Прыйдзем, мама! Яшчэ вернемся! — крычаў разьвітываючыся сын.

— Прыйдзем! Яшчэ вернемся! — паўтаралі другія.

І абрываўся голас за хацінамі. Нёс яго вецер. Мяшаў з шумам соснаў і альшэўнікаў, і плыў па ўсей краіне.

Пацела зямля. І прабівалася з ральлі кінутае ў ніву зерне...

*З літоўскай мовы пераклаў А. ГОРНЫ*

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## СПАТКАНЬНЕ

Калі расплаўлены прастор
аўчынай зьвіс ў палёх зялёных,
скажы, спаткаў цябе нашто
на паркалёвай лешцы лёну?

Хацелася спытацца мне:
ці твае вочы сіней неба
заўсёды будуць так сінець,
ці засумуюць калі небудзь...

Ды бровы чорнаю смугой
апалі ўніз — на пыл дарогі...
І я лагчынаю між гор
паплёўся далей па разлогах.

І можа век у сінь нябёс
ўглядацца будзе соснаў грэбень...
А ўсё-ж на сьвеце нешта ёсьць
сіней за сінь, сіней за неба.

---

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

## ВОСЕНЬ

Голыя межы, жоўтае ржыньне.
Неба так рэдка разгладзіцца сіньню.

Хмары цяжкія зьвісаюць панура,
чэшуць іх лапамі злосна віхуры.

Часам заплачуць халодныя хмары —
сыпяцца сьлёзы на рунь, на папары;

зольлю дакучнай, бы ймглою ўсё сее
на лісьце кляноў, на апошнюю зелень.

Глянеш — і сум у душу закрадзецца,
нібы штось любае сэрцу ірвецца,

нібы адходзе штось ўдаль беззваротна —
вужам ўпіваецца ў грудзі маркота.

# ЗМАГАНЬНЕ ЗЯМЛІ З ЛЁДАМ

Аднак у канцы Кайнозойскай эры гэтаму лету прыходзіў канец. З кожным стагодзьдзем клімат рабіўся больш і больш халодным, выпадала болей дажджоў. На высокіх горах пачало накопліваццa ўсё больш лёду, які ніколі ня таяў. І ў канцы настаў момант, калі гэтыя ледавікі не маглі больш трымацца на горах і папаўзьлі ў нізіны. Эўропа пачала пакрывацца лёдам. Прыблізна поўмільёна гадоў таму назад, з поўначы, з Скандынаўскіх гор, папоўз на Эўропу вялікі ледавік і праз якіх 15 – 20.000 гадоў пакрыў лёдам Фінляндыю, Балтыцкае мора і яго берагі, паўночныя часткі Нямеччыны і Польшчы, Беларусь і нават сярэднюю Расею. Насустрач яму пасоўваліся меншыя ледавікі з Альпаў, Карпатаў і Балканаў. Агульнымі натугамі ўсе гэтыя ледавікі пакрылі лёдам больш палавіны Эўропы, і там, дзе яшчэ адносна нядаўна расьлі пальмы і бегалі львы, запанавала маўклівая ледзяная пустыня. На гэтых ледзяных прасторах, зразумела, не маглі існаваць ні расьліны, ні жывёлы. Усё жывое мусела адступаць перад насоўваючымся ледзяным ворагам усё далей і далей на поўдзень. Частка ўсяго здольнага да жыцьця перайшла ў Афрыку і Азію, а рэшта, прытасаваўшыся да холаду, згуртавалася на тых вастравох сушы, вольнай ад лёду, якія ўцалелі сярод ледзянога акіяну. Але на шчасьце, гэтая страшная Зіма ня была вечнаю. Пасьля 35 — 30.000 гадоў панаваньня лёду, паветра пачало зноў цяплець і Зямля паступова пачала вызваляцца з-пад лёду. Зноў зазелянела расьлінамі зямля, зноў лясы напоўніліся жывёламі, а паветра жамярою і птушкамі. Усё гэта сьледам за адступаўшым лёдам пасоўвалася далей і далей з поўдня назад, на поўнач. Зямля вышла пераможцам у барацьбе з лёдам. І так, Эўропа перажыла *Першую Ледавіковую эпоху,* якая цягнулася прыблізна 70.000 гадоў.



Шкілет нэандэртальскага чалавека

Wszechświat 1936

Наступіла *Першая Міжледавіковая эпоха.* Зноў клімат зрабіўся цёплы, зямлю Эўропы пакрылі лясы. Зноў зьявіліся з Афрыкі і Азіі слані, насарогі, гіпопотамы. Здавалася зноў запануе вечнае лета. Аднак, праз якіх 20.000 гадоў, г. ё. прыблізна 400.000 гадоў таму назад, лёд у другі раз пачаў свой наступ на Зямлю.

У гісторыі Зямлі пачалася *Другая Ледавіковая эпоха.* Другі раз лёд скаваў пад сабою зямлю, гэтым разам нават больш, чым першы. Асталося яшчэ менш, чым першым разам зямлі, вольнай ад лёду; даўжэй за Першую цягнулася

Другая Ледавіковая эпоха. Другі раз усё жывое прымушана было ўцякаць і ратавацца на паўдні. Але і гэтым разам лёд мусіў наканец уступіць.

Прыблізна 330.000 гадоў таму назад Зямля зноў вызвалілася з-пад лёду і пачалася *Другая Міжледавіковая эпоха,* якая была найдаўжэйшай з усіх за апошнія поўмільёна гадоў. На працягу больш за 100.000 гадоў панаваў у Эўропе клімат, значна больш цёплы і сухі, чым цяпер. Таму ў гарачых краінах, дзе і ў Ледавіковыя эпохі клімат быў даволі цёплы, у час Другой Міжледавіковай эпохі наступіла страшэнная сьпека. Вялікія прасторы Афрыкі і Азіі, з нястачы вады,ператварыліся ў пустыні. Затое ў больш паўночных краінах Эўропы сушыня паветра зьмякчалася вадою многалічных вазёраў, рэк і балотаў, што асталіся ў нізінах і лагчынах пасьля разтаяўшага лёду.

На берагох гэтых вадаёмаў і згуртаваліся дрэвы і расьліны. Лугі тут перамяжоўваліся з лясамі пальмавых, ляўровых і інш. трапічных дрэў. Далей ад вадаёмаў ляжалі сьцяпы з нізкарослымі кустамі, а яшчэ далей — пустыні. Сьледам за расьлінамі згуртаваліся ў гэтых краінах больш умяркаванага клімату і жывёлы. З Афрыкі і Азіі сухім шляхам накіраваліся ў Эўропу — уцякаючы з пустыняў — зьвяры, зьвяры, якія цяпер спатыкаюцца толькі ў гарачых краінах. Багатае было тады царства жывёлаў Эўропы: слані, насарогі, гіпопотамы, зубры і дзікія коні, антылёпы, ласі, алені, дзікія кабаны і козы, выдры, гіены, львы, тыгры, ваўкі, мядзьвядзі і г. д. Ад іх цяпер асталіся толькі косьці, якія знаходзяць у слаёх зямлі.

Але на старонках нашага каменнага летапісу з тэй эпохі мы знаходзім больш цікавыя астаткі. Пры разкопках каля Гайдэльбэргу (Нямеччына) ў 1907 г. былі знойдзены косьці першабытнага чалавека, жыўшага ў Другую Міжледавіковую эпоху. Малыя, праўда астаткі знойдзены ў Гайдэльбэргу: толькі адна ніжняя вузкая сківіца з зубамі і некалькі касьцей; аднак гэта была ўжо сківіца людзкога прашчура, хаця-ж і стаяўшага яшчэ на вельмі нізкой ступені разьвіцьця. Нельга ўявіць сабе поўнасьцю выгляд гэтага *гайдэльбэрскага прачалавека* (Prothanthropus heidelbergensis), але відаць толькі, што ён мала розьніўся ад сучаснай наўпы.

Пасьля Другой Міжледавіковай эпохі, ледавікі з поўначы зноў пачалі свой наступ на Эўропу і прыблізна 220.000 гадоў таму назад настала *Трэцяя Ледавіковая эпоха,* самая вялікая, як па часе, так і па абшарах, занятых лёдам. Гэты раз вольнымі ад лёду захаваліся толькі паўднёвыя краіны Нямеччыны, Францыі, Румыніі і Украіны. Але й на гэтым невялікім кавалку сушы панавала тундра, парошшая мохам,



Шкілет цяперашняга чалавека

Wszechświat 1936

сярод якога палахліва прытуліліся нізкаслыя бярозкі, вярба і дзе-нідзе палярная трава. Толькі на вузкой прыморскай паласе поўдня Эўропы, там, дзе нядаўна яшчэ былі амаль бязводныя пустыні, уцалелі яловыя і сасновыя лясы, што пасьпелі прытасавацца да холаду. З далёкага паўночнага Сібіру, сюды на поўдзень Эўропы зьявіліся і паўночныя жывёлы, уцякаўшыя ад наступу ледзяной сьмерці. Найвялікшымі з іх былі маманты — вялізарныя, больш 5 мэтраў вышыні, падобныя да сланёў, з загнутымі ў гару 2-мя клыкамі (пара такіх клыкоў важыць каля 25 пудоў), аброшшых даўгімі (каля аршына) валасамі. Добра захаваныя — з мясам і шэрсьцяй, — астаткі цэлых мамантаў былі знойдзены гадоў 50 таму назад у паўночнай Сібіры. Многа мамантавых астаткаў — ужо каля 150, — знойдзена і на беларускіх землях. У апошнія гады знайшлі іх у Беларусі на Палесьсі, каля каналу Агінскага ў 1934 г. і ў Драгічынскім павеце ў 1937 г.; у тымжа годзе былі знойдзены астаткі ў даліне Нёмна каля Горадна, а летам 1938 г. знайшлі там-жа вельмі добра захаваны мамантавы клык, даўжыні больш 2 мэтраў.



Чалавек нэандэртальскі

Wszechświat 1936

Апрача мамантаў жылі тады ў Эўропе паўночныя насарогі, вялізарныя алені, у якіх між канцамі рагоў было 3 — 4 мэтры, і ў канцы — страшныя ворагі чалавека — пячорныя мядзьвядзі, вялічыні каля 3 мэтраў.

Ад чалавека, жыўшага ў гэтую III Ледавіковую эпоху захавалася да нашых дзён значна больш касьцей, чым ад чалавека гайдэльбэрскага. Захаваліся нават цэлыя шкілеты. Найбольш чарапоў і касьцей было знойдзена ў 1856 г. у Нэандэртальскай пячоры ў Нямеччыне. Таму і расу людзей, якія тады жылі завуць *нэандэртальскай расай*. Як-жа выглядаў чалавек гэтай расы? Трэба прызнацца, што з нашага гледзішча, меў ён выгляд мала сымпатычны. Быў ён зусім ня волат, як жыўшыя адначасна з ім жывёлы, а хутчэй нават нізкога росту (каля 1 мэтра 60 сантім.). Каранасты і шырокаплечы, на кароткіх крывых нагах, ён яшчэ нават не хадзіў так проста, як сучасны чалавек, а трохі пахіліўшыся наперад. Галава была непамерна вялікая, лоб зусім нізкі і надта палогі; над вачыма былі вялікія надбрыўныя гузы, ствараўшыя быццам валік. Верхняя сківаца была наўскос высунутая наперад, а ніжняя надта цяжкая і вялікая, зусім ня мела падбародка. Як бачым, і людзі нэандэртальскай расы з выгляду яшчэ прыпаміналі

чалавекападобную наўпу. Нават, судзячы па іх вузкіх скiвiцах, яны яшчэ ня ўмелі яксьлед гаварыць. Барацьба за існаваньне ў цяжкіх умовах ледавіковае эпохі была для нэандэртальца значна цяжэйшаю, чым для гайдэльбэржца ў цёплыя часы. Але, якраз дзякуючы гэтым умовам, *у жорсткай барацьбе гартаваўся і мацнеў яго дух, разьвіваўся яго розум.*

Перажыла Зямля і Трэцюю Ледавіковую эпоху, якая цягнулася больш 100.000 гадоў, і настала *Трэцяя Міжледавіковая эпоха.* Ня лёгка было гэты раз паветру аграваацца: занадта доўга ляжаў лёд і занадта многа асталося пасьля яго вады на зямлі. Таму ўсю першую палавіну гэтай эпохі, каля 20.000 гадоў, панаваў сыры, морскі, клімат, і толькі ў другой палавіне перайшоў ён у сухі, сухаземны. Аднак, уся Трэцяя Міжледавіковая эпоха была ўсёжтакі ў сярэднім ужо больш халодная, чым папярэдняя II Міжледавіковая эпоха. Па меры таго, як мяняўся клімат, мянялася і жывёльнае і расьліннае царства. У тундры, на імшарах, паўночныя алені, ваўкі і лісіцы то падыходзілі да самых ледавікоў, то адступалі на поўдзень у тайгу. Вясною мільярды птушак пакрывалі балоты сваімі гнёздамі. Паласа лясоў і лугоў была яшчэ больш багатая зьвярыма. Тут хадзілі стады быкоў-зуброў, дзікіх, яшчэ няведаючых людзкой няволі коняў. З імі сходзіліся і разыходзіліся стады даволі спакойных мамантаў і насарогаў. Але ў іх былі страшныя і магутныя ворагі: пячорныя львы, пячорныя мядзьвядзі, пячорныя гіены. Яшчэ далей ад ледавікоў у сьцяпох і трапічных лясох жывёльнае царства дасягала найбольшага багацьця і найвышэйшага разьвіцьця. Моры, азёры і рэкі кішэлі тады рыбаю.



Чалавек кроманьёнскай расы

Wszechświat 1936

Людзі нэандэртальскай расы перажылі III Ледавіковую эпоху, але разам з лёдам нейдзе зьніклі з паверхні Эўропы. На іх мейсцы мы спатыкаем ужо людзей новай расы, маючых зусім чалавечую будову шкілета і чалавечы выгляд. Гэта *кроманьёнская раса,* названая так ад пячоры ў Кроманьёне (Францыя), дзе ў 1868 годзе было адкапана 5 шкілетаў гэтых новых людзей. Магчыма, што нэандэртальцы, прывыкшыя да халоднага клімату, адступілі разам з лёдам на поўнач і там загінулі; а магчыма, што іх зьнішчылі больш культурныя народы, што прышлі з паўдня. У кожным разе ў III Міжледавіковую эпоху мы знаходзім у паўднёвай і сярэдняй Эўропе новую расу, расу,

# ТАБЛІЦА

| Гады | ЭПОХІ ЛЕДАВІКОВАГА ПЭРЫЯДУ | Людзкая культура. Век: |
|---|---|---|
| | сучасныя эпохі | жалеза-бронз. |
| | пасьляледавіковыя эпохі | нэолітычны |
| | IV ледавіковая эпоха | палеолітычны |
| | III міжледавіковая эпоха | |
| 100.000 | | |
| | III ледавіковая эпоха | |
| 200.000 | | |
| | II міжледавіковая эпоха | |
| 300.000 | | |
| | II ледавіковая эпоха | |
| 400.000 | | |
| | I міжледавіковая эпоха | |
| | I ледавіковая эпоха | |
| 500.000 | | |



Адтварэньне мяккіх часьцей на нэандэртальскім чэрапе

Wszechświat 1936

што прышла праз Балканскі паўвостраў з пярэдняе Азіі, расу кроманьёнскую. Гэтыя прышэльцы з паўдня і былі найбліжэйшымі продкамі сучасных чалавечых рас, сучаснага чалавецтва.

Нядоўга адпачывала гэты раз Зямля ад націску лёду, усяго якіх 40.000 гадоў. Прыблізна 70.000 гадоў таму назад у гісторыі змаганьня Зямлі з лёдам наступіла *Чацьвёртая Ледавіковая эпоха,* апошняя да нашых дзён. Была гэта і найменшая Ледавіковая эпоха, як па часе, так і па занятым абшары. Налічае яна ўсяго каля 50.000 гадоў. На гэты раз лёд, адступаючы ўсё далей на поўнач, быццам адчуваючы сваё бяссільле ў барацьбе з Зямлёю, пробаваў некалькі разоў затрымацца, нават пасунуцца наперад. Але ўсё-ж Зямля перамагла, лёд астаўся зноў толькі на горах, і каля 20.000 гадоў таму назад наступіла на Зямлі *Пасьляледавіковая эпоха.*

Ці змоўклі назаўсёды таямнічыя сілы, выклікаўшыя на працягу мільёнаў гадоў гэтыя зьмены ў жыцьці Зямлі, ці яны толькі прытаіліся да часу? Ці прыдзецца Зямлі перажыць яшчэ наступы лёду, а калі прыдзецца, то колькі і як скора? Навука на гэта да сяньняшняга дня яшчэ не дае пэўнага і бясспрэчнага адказу. Але адно ясна: калі чалавечую культуру праз усе ледзяныя тысячагодзьдзі пранесьлі і захавалі голыя рукі першабытнага поўчалавека, то ня можа яна загінуць і ў руках чалавека, узброенага лепшай тэхнікай і здабычамі навукі. Пакуль на Зямлі астанецца чалавек, да тэй пары астанецца і чалавечая Культура.

**Ул. Пігулеўскі**



Адтварэньне мяккіх часьцей на чэрапе з Кроманьёну

Wszechświat 1936

# БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ

*Ліст з Парыжу*

Выгадная гаспадарчая сытуацыя Францыі, яе адносная неперанаселенасьць, разьвіты промысел, прысутнасьць аграмадных і багатых рознай сыравінай калёніяў — ужо здаўна накідалі патрэбу прачыненьня граніц для прыплыву чужых рабочых рук.

Асабліва востра адчулася гэта патрэба пасьля сусьветнай вайны. Галоўнай прычынай тут было тое, што Францыя ў часе вайны панясла вялізарные страты людзкім матар'ялам, а да таго прыдбала яна яшчэ новыя абшары калёніяў і далучыла спустошаную вайной, але ў той час багатую промыслам і падземнымі багацьцямі Эльзас-Лётарынгію.

Прыродны прырост насяленьня для Францыі не абяцаў нічога добрага. Сам аграмадны дзяржаўна-адміністрацыйны апарат імпэрыі адцягіваў масу актыўных сіл ад тэхнічна-прадукцыйнае працы. Лёгіка неабходнасьці замацаваць здабытыя пазыцыі гаспадарча-палітычнай перавагі, дыктавала Францыі канечнасьць абсадзіць усе кіраўнічыя гаспадарча-палітычныя і тэхнічна-адміністрацыйныя функцыі французамі. Такім чынам з нізу разчынялася яшчэ шырэйшае поле для прытоку фізычных сіл, поле, якое і не замарудзіла заняць эміграцыя, хлынуўшая з розных дзяржаў.

Згодна апошніх урадавых падрахункаў, усіх чужынцаў у Францыі лічыцца каля 2 мільёнаў, і таксама ёсьць каля 2 мільёнаў ужо прыдбаўшых французскае грамадзянства, так званых „натуралізаваных“.

Калі прыняць пад увагу надзвычай павольны і слабы працэнт асыміляцыі „натуралізаваных“, ня зусім поўнае іх зраўнаньне ў правох з французамі па крыві, то чужынцаў агулам будзе ў Францыі каля 3 з палавінай мільёнаў.

Што да нацыянальнага складу, то першае мейсца сярод чужынцаў займаюць італьянцы (каля 700.000) за імі ідуць палякі — (каля 600.000) а далей усе іншыя нацыянальнасьці ад 70 да 10 тысяч. Зусім нязначны працэнт складаюць такія народы, як эстонцы, латышы, датчане, швэды, нарвэжцы.

Вельмі цяжка азначыць хаця прыблізна лік эміграцыі беларускай, а гэта таму, што ўся яна зарэгістраваная паводле сваіх дзяржаўных пашпартоў, на якіх прыбыла ў Францыю. Беларусы таму афіцыяльна фігуруюць як палякі, расейцы, латышы і т. п.

Аднак аблічаючы працэнтна, можна сьцьвердзіць, што лічба беларусаў хістаецца між 70—80 тысячамі.

Па сацыяльным складзе беларуская эміграцыя, гэта амаль выключна сялянская спралетарызаваная маса, на 80 проц. з Польскай Рэспублікі і з амаль поўнай адсутнасьцю інтэлігенцыі, ці на'т поўінтэлігенцыі.

**Агульны прававы стан эміграцыі.** Згодна з французскімі законамі, усе чужынцы падзелены на катэгорыі па сацыяльным стане: 1. найлічнейшая катэгорыя, гэта працоўная эміграцыя; яе прыблізна 80 проц.;

2. гандляры; 3. студэнты і 4. без прафэсыі — пражываючыя на ўласныя грошы. Адсюль існуюць і чатыры гатункі таквзаных „карт ідэнтычнасьці“ (carte d'identitè), якія дакладна азначаюць кожнаму яе ўласьніку час быцьця, чын, а на'т і рух на тэрыторыі Францыі. Для атрыманьня права на быцьцё ў Францыі, апошнім 3 катэгорыям трэба значна менш фармальнасьцяў і адмаўляецца ім у вельмі рэдкіх выпадках, а карты іх важныя на ўсю Францыю.

Што да першай катэгорыі — працоўнай, — то францускае законадаўства і розныя адміністрацыйныя распараджэньні значна больш удзяляюць ей увагі сваімі агранічэньнямі. Перадусім уся працоўная эміграцыя падзелена яшчэ на дзьве катэгорыі: работнікаў промыслу і работнікаў земляробскіх. Далей ідзе шматлікі падзел на прафэсыі.

З праўнага гледзішча, у першых гадох эміграцкае „эры“ падзел на прафэсыі ня меў яшчэ таго вялікага значэньня для работнікаў прамысловых. Пры жаданьні зьмяніць прафэсыю, ня ставілася вялікіх перашкод з боку Міністэрства Працы. Такія перашкоды былі толькі для тых работнікаў, якія хацелі перайсьці з земляробства ў промысл; але і то ня рэдкія былі выпадкі, што ўдавалася пераступіць гэтую мяжу.

Што да тэрыторыяльнага перасовываньня, то прыблізна да 1930 году таксама ня ставілася паважных перашкод. Існавала толькі каля 4 дэпартамэнтаў, паехаць у якія трэба было спэцыяльных дазволаў. З 1930 году законадаўства штораз то больш набірае неспагадныя для эміграцыі формы. І ў канцы за прэм'ерства Ляваля, station ноўка забараняецца работніку ўсіх катэгорыяў пераяжджаць з аднаго дэпартамэнту (дэпартамэнт — прыблізна наш павет) у другі. Таксама больш срога праводзіцца ў жыцьцё працэнтная норма, якая выціскала чужынцаў з лягчэйшых прамысловых прац на больш цяжкія (да шахтаў, лясных і землякопскіх прац). Закон 31 чэрвеня 1938 г. яшчэ сражэй аднёсься да працоўнай эміграцыі. Цяпер ня толькі трудны і амаль немагчымы пераезд з дэпартамэнту ў дэпартамэнт, але таксама ў вельмі вынятковых выпадках дазваляецца і перамена прафэсыі, хаця часам на'т і зусім блізкіх адна другой. Так, прыкладам: столяр ня мае права працаваць як мэбельнік, або часак (плотнік), ці землякоп з сельскай гаспадаркі — землякопам на дарогах і г. д.

**Выдача і абмен картаў.** Як правіла, каб здабыць рабочую карту, неабходна было скончыць кантракт, на які чужынец прыехаў з свайго краю. Па атрыманьні на гэта дазволу ад Міністэрства Працы, на пачатак выдавалася мяйсцовай адміністрацыяй тымчасовае пасьведчаньне, таквзанае „Рэсэпісэ“ — быццам для праверкі чужынца; прыблізна за год выдавалася і карта ідэнтычнасьці. Карта гэтая выстаўлялася ня больш як на тры гады. Пасьля тэрміну яе платнасьці, уласнік карты мусіў знайсьці сабе гаспадара, які-б яму выдаў новы кантракт тэрмінам ад 6 да 12 месяцаў, і мусіў скласьці нанава просьбу да Міністэрства Працы.

**Прывілігіраваныя.** Да прывілігіраваных у першую чаргу належаць тыя чужынцы, якія адбылі службу ў францускім войску, легіянеры колёніяльных войск і эпатрыды (чужынцы, што ня маюць падданства, бяз бацькаўшчыны), якія па новых законах падлягаюць прызыву нараўне з францускімі грамадзянамі. Адбыўшы, такім чынам, вайсковую службу, чужынец дастае карту з правам вольнага пераез-

ду па ўсей тэрыторыі, а працаваць можа ўва ўсякай прафэсыі. На такую т. зв. „карт жэнэраль“ (агульную карту) маюць права і чужынцы пражыўшыя 15 год у Францыі бяз выезду.

Карыстаюцца пэўнымі льготамі чужынцы жанатыя з францужанкамі ня менш 2 год, дзеці якіх французы.

**Эканамічны стан працоўнай эміграцыі.** Вельмі няроўны. Няроўнасьць гэтая залежа ня толькі ад прафэсыі, але і ад раёну ў якім перабывае чужынец. Агулам-жа найбольш зарабляецца ў вялікіх прамысловых цэнтрах і на вялікіх фабрыках. Такім цэнтрам перадусім ёсьць Парыж, пасьля Ліён. Тут чорнарабочы, напрыклад, да 1935 году — (калі валюта была больш-менш цьвёрдая) зарабляў на фабрыках да 6 франкаў на гадзіну, невялікі спэцыяліст, як сьлёсар — да 8 фр., — як такі-ж чорнарабочы на правінцыі даставаў ад 2 з пал. да 3 з пал. фр. на гадзіну. Столяр у Парыжу зарабляў каля 7—8 фр. на правінцыі-ж 4 — 4 з пал. фр. Дзяўчына, служанка ў Парыжу — да 400 фр. на месяц на ўсім гатовым (харчы і кватэра), на правінцыі каля 200 фр. Пры гэтым розніца ў плаце зусім не адказывала танейшаму, ці даражэйшаму жыцьцю раёнаў, а часта на'т бывала зусім наадварот. Тое самае мы маем і з заработкамі земляробскіх работнікаў, дзе мужчыны месячна (на харчох гаспадара) зараблялі ад 250 да 500 фр.; жанчыны ад 200 да 300 фр. у залежнасьці ад раёну.

З прыходам да ўлады народнага фронту заработкі былі падвышаны прыблізна на 30 проц. Але тры чарговыя дэвалюацыі франка, здаражылі жыцьцё на 50 проц., так што ў выніку работнік дастае менш на 20 проц. Апрача гэтага, тыя работнікі, што мелі сякія-такія ашчаднасьці ў банку, таксама страцілі палавіну іх вартасьці.

Агулам кажучы, эканамічны стан працоўнай эміграцыі больш чым не завідны. Вельмі нязначны працэнт сярод нашай эміграцыі тых, якім удалося зграрнуць ашчаднасьці. На тысячу можна знайсьці аднаго - двух што маюць у банку па 25 — 30 тысяч франкаў за 10—12 гадоў свайго прабываньня ў Францыі. У большасьці гэта работнікі, што доўга ўтрымаліся на мейсцы, каторыя з цьвёрдым рахункам „пераводзяць“ свае франкі на гэктары зямлі, якія яны меліся купіць па павароце дамоў. Дэвалюацыя ім зрабіла вялікую крыўду, апраўдаўшы лёгкадумныя насьмешкі тых нядбайлівых беларускіх работнікаў, якія не ўкладаюць сабе на будучыню ніякіх плянаў, а перайшлі па мясцовым звычаю на тыднёвы бюджэт, і, калі запас іхні перавышаў тысячу або 2 тысячы франкаў, то чуліся зусім здаволенымі.

Агулам пэрспэктывы будучыні проста жуткія. У большасьці таму наша эміграцыя апусьцілася, надзеяў ня мае ніякіх. Сілы фізычныя зношываюцца, і калі ў каго ёсьць дома браты ды гэктар зямлі за яго душой, то адзіная надзея дасядзець старасьці „кутам“ вярнуўшыся да дому. Другія-ж зрабілі-б гэта безадкладна, але папросту ня маюць на паварот грошаў. Згубіўшым-жа здольнасьць да працы (што тут рахуецца сярэднім векам 50 год) існаваць ў Францыі проста немагчыма, бо на'т жабраваць і то патрэбна пэўная кваліфікацыя: калі ня іграць на гармоніку ці скрыпцы — то прынамсе трэба ўмець сьпяваць і сьпяваць не паганна.

**Адносіны францускага грамадзянства да эміграцыі.** Тут, бязумоўна, залежыць многа ад асабістай удачы кожнага эмігранта. Вялізная псыхолёгічна-культурная розьніца між эмігрантамі і французамі

вытварыла пагардлівыя адносіны французаў да эміграцыі. Слова „чужынец“ пафранцуску — *этранжэр* — уводзіцца часта ў слоўнік лаянкі з нярэдкім дабаўляньнем прыкметніка *саль* — карэлы, брыдота.

Нават у больш паступовай частцы францускага грамадзянства, дзе вонкава быццам і не праяўляецца пагардлівасьць, нутраной прыхільнасьці да эміграцыі няма.

Адзін з маіх суседзяў, даволі выдатны камуніст, у прыпадковай гутарцы сказаў так: „Я, бачыце, інтэрнацыяналіст. Для мяне бацькаўшчына — сьвет. Але чужынцы, што ўцякаюць з сваей зямлі — памоему — ня варты звацца людзьмі. Калі ў іх там дома паганна — то ня наша віна. Няхай пастараюцца зрабіць лепш, а ня ўцякаць“.

**Кары — высылкі.** Неаднолькавасьць умоваў працы ў розных раёнах, прыродна спанукала эміграцыю да шуканьня лепшага кутка, лепшых заработкаў. Распараджэньні, каторыя тармазілі свабоду руху, эмігранты стараліся ўва ўсякі спосаб абыходзіць.

Рэкорд у гэтым сваім спрытам пабілі кітайцы. Апошнія, у Парыжы патраплялі на адну карту пражываць цэлай дружынай. „Ну што ты з імі зробіш! — жаліўся адзін *консэрж* (старож панашаму, але ў Францыі гэта першы „урадавы“ чын для эмігранта). Наймаюць пакой у 4—5, а запісывацца прыходзяць па адным. Ну як іх разрозьніць?! Вочы, галовы — як капля вады, а прозьвішчы — Дзындзын, Лін-лін! Зразумела, француз перапісываючы па літары, зусім бяз злой волі, рабіў з аднэй і тэй самай карты некулькі розных прозьвішчаў.

Існавала ня мала і розных пералётных „бюраў“, якія за 500—1000 фр. выдавалі карты з зусім ужо акуратна выпісанымі для ўсіх нацыяў прозьвішчамі.

Найлягчэйшы спосаб абыходу закону і зусім законна праараблялі некаторыя дзяўчаты. Найдзе нейкага жабрака або старога ўдаўца ці дзяцюка і за паўтары, дзьве тысячы „пасагу“ — „жэніца“. Па „шлюбе“ — кожны сваей дарожкай... А дзяўчына — аўтаматычна француженка, пашпарт у кішані, а муж — „кінуў, хай яго ліха!“.

Як не цяжкія ўмовы праўнага і гаспадарчага парадку, аднак высылка з Францыі здаецца для эмігранта найвялікшай карай. Прычына, зразумела, тая, што кожны эмігрант — усёжтакі сяк-так ухітраецца тут пражыць. А дома хіба лепей?!.. І так вось цягне, пакуль можа, лямку. Для эпатрыда-ж то ўжо проста няма чаго выбіраць.

Закон 31 чэрвеня ўвёў срогую „чыстку“ безработных, паставіў на ногі ўсю паліцыю, адміністрацыю. Насьледкам чаго ў вадным Парыжы было вылаўлена каля 100.000 “зайцаў“. Частку з іх выслалі з Францыі, частку выгналі на правінцыю.

**Дапамога безработным.** Агулам безработных у Францыі рахуецца каля палавіны мільёна. Помач для безработных выдаецца ня ўсюды, але ў дэпартамэнтальных гарадох — заўсёды. З чужынцаў на гэту помач маюць права толькі тыя грамадзяне, дзяржавы якіх маюць з Францыяй адпаведную ўмову. Польшча такую ўмову мае, таму большасьць нашай эміграцыя з гэтага права можа карыстаць. Беларусы-ж з Усходняй Беларусі, а таксама з Латвіі і наагул без грамадзянства (палітычныя эмігранты), на запамогу для безработных ня маюць права.

Што да разьмеру запамогі, то яна для чужынцаў устаноўлена ад 8 — 10 фр. на дзень. Гэта прыблізна чацьвёртая доля пражытачнага дзяннога мінімума работніцкага ўтрыманьня. У Парыжы-ж за такога безработнага мяйсцовая мэрыя аплачывае і памешканьне, у якім захапіла яго безрабоцьце. Зразумела, што выжыць за 8 — 10 фр. — трэба ня простай мудрасьці. Але, тымняменш, сярод беларусоў у Парыжы маецца добры дзесяток, якія на гэтай „найбольш сталай“ хоць і скупой пэнсыі сядзяць па 3 і на'т 5 год. Гэта ўжо сапраўды штукары і ідэальныя аканомы.

**А. Задарожны**

(Канец будзе)

## *З ГАЗЭТНЫХ ШПАЛЬТ*

### *Адкрыцьці.*

Нейкі пан Жултовскі з Катовіцкай „Kuźnicy“ сёлета быў ласкаў прыехаць у Віленшчыну — „там, дзе бунтуюцца ройсты“ (так завецца ягоны рэпортаж з гэтай падарожы, зьмешчаны ў № 17 часапісу), — і парабіць зацемкі, а часта проста неспадзеваныя адкрыцьці. Вось цікавейшыя:

> ... гэтая зямля разам з сваей сталіцай мае „wybitnie“ польскі характар... А сучаснае жыцьцё Віленшчыны настаўленае толькі на польскую ноту!
>
> ... палі абшырныя і ніводзін гаспадар ня можа пажаліцца на нястачу зямлі (толькі, што не патрапіць усей зямлі абрабіць!)...
>
> ... Каталіцкі ксёндз на „Крэсах“, гэта місіянер сьвятой Веры і польскасьці... Многа для Касьцёла памагаюць афіцэры і падафіцэры К. О. П.-у, каторых таксама трэба залічыць да абаронцаў і пашыральнікаў польскасьці на „Крэсах“... Для польскасьці яшчэ працуюць на „Крэсах“ вайсковыя асаднікі.

— У канцы аўтар сьцьвярджае:

> ... Сумна аднак было, калі мы заўважылі, што дзеці каранных палякоў пачынаюць дома гаварыць пабеларуску.

З усіх больш і менш вясёлых для п. Ж. рэчаў, найбольш неспадзеваная — адкрыцьцё такіх абшырных палёў, што ніводзін гаспадар ня можа іх абрабіць!... Гэта ўжо сапраўднае адкрыцьцё „Амэрыкі“! Ці не глядзеў п. Ж. на Віленшчыну і на яе „неабсяжныя“ землі толькі з ганкаў дворных панскіх маёнткаў?

Тое - ж самае „адкрыцьцё“, толькі ўжо на „полуднёвых крэсах“ робіць нейкая п. Домбровска. 9.IX с. г. разказывала яна ў радыё, што едучы з Львова ў Трускавец бачыла праз вокны вагонаў аграмадныя абшары пустой, незаселенай зямлі (хаця статыстыка гавора, што гэта амаль самае залюдненае мейсца ў Эўропе). У заканчэньні п. Д. гаварыла: Нашто шукаць дзесьці калёніяў з плянтацыямі кавы ці чаго іншага, калі тут непачатае поле для калянізацыі і для працы.

### *„6 мільёнаў палякоў у Саветах“!*

У часе галоснай „друйскай справы“ ўсе эндэцкія газэты наўзавады падымалі вялікі шум праціў беларускіх айцоў Марыянаў і наагул праціў беларускага народу. Пры нагодзе, незаікаючыся, як пацеры, адбарабанілі ўсе даўно знаныя свае мудрасьці аб

тым, што беларусы, гэта польскае племя, беларуская мова, гэта толькі гутарка мовы польскай, ды што ў канцы ніякіх беларусоў наагул няма пад сонцам.

У часапісе „Oriens" № 4 у артыкуле „Monachomachia w Druji", больш цьвярозы кс. Урбан аб клічах — „białorusini, to polskie plemię", „język białoruski, to gwara języka polskiego" — і іншых эндэцкіх недарэчнасьцях, піша гэтак:

> Той самай беларускай гутаркай, адменнай ад польскай літаратурнай мовы, гавора ня толькі мільён (фактычна куды больш мільёна — Рэдакцыя „Б. Лет.") грамадзян Рэчыпаспалітай, але найменш шэсьць мільёнаў паза ейнымі граніцамі. Калі гэта адна з польскіх гутарак і беларусы зьяўляюцца польскім племенем, тады маем шэсьць мільёнаў палякоў у „Бальшэвіі". Дзіўная рэч, што гэтага недагледзіў Ст. Грабскі, падпісываючы рыскі трактат і згаджаючыся на ўтварэньне беларускай камуністычнай рэспублікі і што ня бачаць гэтага нашыя „narodowcy" і не дамагаюцца звароту для Польшчы гэтых мільёнаў!

*Чартапалох цьвіце...*

Віленскі „Озон" дамагаецца, каб праз радыё з Вільні надаваліся аўдыцыі і пабеларуску. Дзеля гэтага эндэцкія газэты, зразумела, паднялі гвалт процiў намераў „беларушчаньня польскіх Крэсув". Беларуская прэса вестку толькі занатавала, не выражаючы спэцыяльнага здаваленьня, бо-ж мова яшчэ ня ўсё, — можна і пабеларуску надаваць рэчы шкодныя беларускаму народу.

Але ідзе цяпер нам не аб гэта. Хочам тут толькі падаць цікавы абразок з спрэчак аб гэтай справе. Кашубскі месячнік „Zrzesz Kaszëbskô" у № 8 падае такую зацемку:

> З Вільні маюць надаваць беларускія аўдыцыі. Гэта ўзбурыла моцна „Słowo Pomorskie" (26.VII.38); каторае піша так: „A nie łaska to, panowie z Ozonu, uczyć tamtejszych kacapów mówienia po ludzku, czyli po polsku"? Каб такі сказ мог паказацца ў культурным часапісе, гэта трудна дапусьціць. У такі спосаб абражаць які небудзь народ, ня ёсьць годным цывілізаваных людзей. Гэта можа хіба здарыцца ў Азіі, а не на Памор'і.

ВОГНІК

# НАША ХРОНІКА

⁂ **Новыя песьні.** Украінскі композытар М. О. Гайворонські апрацаваў і прыслаў з Нюёрку ў Вільню для хору Р. Шырмы пяць новых беларускіх народных песьняў: „Лявоніха", „Ой, гукнула сыраежка" (жніво), „Ой, у полі дзьве птушачкі" (ракруцкая), „Як пайшоў Мікола" (валачобная) і „Ой, ляцелі ды два галубочкі" (валачобная). Стыль і мастацкі характар апрацоўкі гэтых песьняў якнайболей адпавядаюць духу нашай народнай творчасьці.

Новую народную беларускую калядку „Прэсьвятая Марыя" аранжаваў і прыслаў для таго-ж хору композытар А. Кошыц. Гэтая калядка настолькі арыгінальная і мае такія вялікія мастацкія вартасьці, што сам слаўны композытар — вялікі мастак і знаўца народнага фольклёру — уважае яе найвялікшым дыямэнтам сярод калядных скарбаў.

⁂ **Зьмена дырэктара Беларускай Гімназіі.** Дасюлешняга дырэктара Беларускай Гімназіі ў Вільні, грам. М. Анцукевіча, школьныя ўлады раптам і нечакана перавялі аж у Ломжу на звычайнага вучыцеля гімназіі польскай. Новым дырэктарам назначаны вучыцель гр. Б. Кавалевіч. Прычыны і мэты такой нечспадзеванай зьмены на самым пачатку школьнага году дасюль няведамыя. Трэба адзначыць, што гр. М. Анцукевіч быў добрым дырэктарам і адначасна добрым вучыцелем-пэдагогам.

⁂ **Беларуская гімназія ў Вільні,** якая дагэтуль называлася *Беларускай Філіяй Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага,* цяпер будзе называцца *Беларускай Філіяй Гімназіі і Ліцэю ім. Ад. Міцкевіча.*

Наплыў новых вучняў у гімназію, як і ў мінулыя гады, быў вельмі вялікі. Прынялі ўсяго толькі прыблізна палавіну кандыдатаў; рэшта, дзеля нястачы мейсца, мусела варочацца да хаты. На адчыненьне роўналежнай дадатковай клясы — такія захады рабіліся — непазволілі школьныя ўлады.

⁂ **Друйская справа.** У справе выселеных з Друі беларускіх айцоў Марыянаў 31.VII.38 прыяжджаў у Друю генэрал Жэлігоўскі, каторы зрабіў там народнае сабраньне, на якім усе выказаліся па старане а. а. Марыянаў. 1 верасьня ген. Л. Жэлігоўскі ўручыў прэм'еру ген. Славой Складкоўскаму сваё асьведчаньне ў справе друйскіх а. а. Марыянаў. Такое-ж асьведчаньне выслана ў канцэлярыю Пана Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, маршалкам Сойму і Сэнату, і міністру Асьветы і Веравызнаньняў.

Улада Закону айцоў Марыянаў падала ў суд рэдактара кракаўскага часапісу „IKC“ (Ilustrowany Kuryer Codzienny) за беспадстаўнае чарненьне беларускіх друйскіх законьнікаў.

⁂ **Праф. Т. Каструба ў Вільні.** Малады ўкраінскі гісторык праф. Т. Каструба адведаў Вільню і 12 жніўня с. г. у Беларускім Навуковым Т-ве прачытаў вельмі цікавы рэфэрат „Аб паходжаньні беларускага народу“, у якім падаў да ведама вынікі сваіх апошніх гістарычных досьледаў над гэтым пытаньнем.

⁂ **Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў** адбыўся сёлета 25 і 26 жніўня ў сталіцы Швэцыі— Штокгольме. Запросіны на гэты кангрэс атрымалі і беларускія кругі ў Вільні, але, з прычынаў ад сябе незалежных, дэлегацыі сваей ня выслалі.

⁂ **Беларускі Нацыянальны Камітэт.** Пастанова адміністрацыйнай улады аб разьвязаньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, прэзыдыюмам БНК 8 жніўня с. г. заскаржана ў Найвышэйшы Адміністрацыйны Трыбунал.

⁂ **З Картузкай Бярозы,** пасьля 15-месячнага прабываньня звольнены паэт С. Хмара.

⁂ **Сканфіскаваны** „Беларускі Фронт“ № 8 з 5 жніўня 1938 г. і „Chryścijanskaja Dumka“ № 26.

⁂ **Беларусы ў Латвіі.** Беларускі мастак-маляр Міркановіч, які ўжо даўно выказываў праўдзівы мастацкі талент, падчас апошніх выставак латвійскага мастацтва ў Рызе здабыў сваімі абразамі вельмі прыхільную і высокую ацэну латвійскай прэсы. З тых рэпродукцыяў, якія прышлося бачыць, відаць, што творчасьць Міррановіча ў поўнасьці вырастае з беларускай вясковай стыхіі і адначасна моцна розніцца ад творчасьці беларускіх мастакоў у Вільні. Тэматыка ягоных абразоў — жыць-

цё і праца беларускай вёскі ў рэалістычным уняцьці.

*** **Беларусы ў Ліцьве.** Яшчэ вясной у Коўне арганізацыя „Беларускі Цэнтр у Ліцьве“, зладзіла канцэрт з прадстаўленьнем.

Цяпер беларусы, пражываючыя ў Ліцьве выдаюць календар-кніжку на 1939 г. Гэта будзе першы календар літоўскіх беларусоў. У сувязі з падрастаньнем маладых культурных сілаў, робіцца таксама спроба арганізаваць у Коўне выдаваньне пэр'ёдычнага часапісу.

**У СТУДЭНТАЎ.** Разам з пачаткам новага акадэміцкага году разпачаў сваю працу і Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні. Саюз месьціцца на вуліцы Завальнай 1—2; адкрыты кожны дзень увечары ад $18^{30}$ да 21 гадзіны. У гэтым часе даюцца ўсякія інфармацыі для новапаступіўшых і яшчэ паступаючых.

---

## БАГАЦЬЦІ НАШЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ НЕТРАЎ

Аграмадныя, яшчэ дакладна не ашацаваныя і мала выкарыстаныя абшары торфу мае Беларусь. Калі ў вялікай Нямеччыне ёсьць 7 мільярдаў тон торфу (тона = 1000 кг), то ў нас яго ёсьць напэўна куды болей, бо (як ужо пісалі ў папярэднім нумары) тарфяныя запасы самой толькі Віленшчыны аблічаюцца на больш мільярда тон.

Торф у нас дагэтуль яшчэ вельмі мала выкарыстаны, а тымчасам на сьвеце ягонае гаспадарчае і прамысловае значэньне расьце з кожным годам.

Торф ужываецца перадусім як апал, і хаця дае пры гэтым многа адпаду (попелу) і вільгаці, то ўсёжтакі ўжо шырака ўжываецца. А ў нас, дзе лясы так хутка таюць, скора напэўна торф стане на вёсцы апалам проста адзінным, незаменным. Заграніцай торф служыць за апал для электроўняў. У Саветах, напрыклад, на торфе працуе многа электрычных станцыяў (між іншым і на беларускіх землях, як у Бранску). У Нямеччыне на торфе працуюць дзьве электроўні — у Візмор і Рюгле. Кожная з іх перарабляе каля палавіны мільёна тон торфу ў год, даючы 35 мільёнаў кіляват-гадзін энэргіі.

Таму, што ўжываньне самога торфу як апалу ў промысьле мае свае нявыгады, то робяць з яго праз сушэньне і сухую дэстыляцыю т. зв. *тарфяны кокс*, каторы ўжо пры спаліваньні дае столькі-ж цяпла, сколькі і каменны вугаль. Тарфяны кокс ужываюць у горным промысьле пры тапленьні медзі і жалеза. У Нямеччыне і Чэхаславаччыне езьдзяць аўтабусы гнаныя тарфяным коксам (выдайнасьць, у прыраўнаньні з бэнзынай, на 25 проц. меншая, але затое таней). Перапрацоўка торфу на кокс ужо ад 30 гадоў адбываецца ў Элізабэтгафэн у Нямеччыне.

---

# ГРАМАДЗЯНЕ!

**СКЛАДАЙЦЕ ГРАШОВЫЯ АХВЯРЫ** НА ЎТРЫМАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЮ Ў ВІЛЬНІ ДЗЕ ЗАХОЎВАЮЦЦА ЦЭННЫЯ СКАРБЫ СТАРОЙ і ЦЯПЕРАШНЯЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ.

АХВЯРЫ ТРЭБА СЛАЦЬ НА АДРЭС »БЕЛАРУСКАГА ЛЕТАПІСУ« З ЗАЗНАЧЭНЬНЕМ: **НА МУЗЭЙ.**

Але з торфу можам мець і многа іншых цэнных прадуктаў. Пры сухой дэстыляцыі торф дае 30 — 35 проц. коксу, 3—6 проц. смалы, 30—40 проц. газавай вады і 20 — 30 проц. газу (ужываецца да асьвятленьня). З атрыманай смалы дастаюць яшчэ алейныя шмары, парафіну і інш. Газавая-ж вада мае ў сабе аманьяк, воцтавую кісьлю, дзінатурку, ацэтон і іншыя прадукты.

Апрача таго, торф служа да вырабу дарагога газу — вадароду, цэлюлёзы (важнай у папераным промысьле), чорнай хварбы, ліналею, дражджэй і многіх іншых цэнных прадуктаў хэмічнага промыслу. Для земляробства з торфу вырабляюцца штучныя гнаі.

Столькі ўсякага дабра выробляе з торфу сучасны промысл. А трэба помніць, што ўжо апрацоўваюцца спосабы дабываньня з торфу нафты (газы) і бэнзыны.

Такія нязьлічоныя скарбы— багацьці ляжаць у нашых мільярдах тон торфу, у нашых так мала дагэтуль выкарыстаных балотах-тарфянішчах.

---

У папярэднім нумары „Б. Л.“ пісалася аб знаходках жалеза і солі ў Беларусі і аб зусім магчымым выкрыцьці ў скорым часе нафты. У верасьні с. г. польская прэса падала вестку, што ў вёсцы Разполты, Юхнавіцкай воласьці, Беластоцкага ваяводзтва, пры разкапываньні старога кургана-магілы, знайшлі, — апрача розных іншых цікавых адкрыцьцяў, — невялікія, лепленыя з гліны старасьвецкія доменныя печы да выпаліваньня жалеза. Пры гэтым аказалася, што грунт у тым мейсцы мае ад 30 да 40 проц. жалеза. Пробкі зямлі для дакладнейшай ацэны высланыя ў Геолёгічны Інстытут у Варшаве. Адкрыцьцё гэтае сьведчыць, што каля Беластоку ў вельмі старыя часы быў шырака разьвіты жалезны промысл.

Трэба яшчэ тут адцеміць факт адкрыцьця на Палесьсі вясной 1937 г. алюмінію і каоліну (гатунак гліны) годнага да выпаліваньня высокавартаснай порцэляны.

---

# НАША ПОШТА

*Праф. А. Прыходзько ў Мукачэве:* За мілыя пажаданьні і за падпіску шчыра дзякуем.

*Др М. Голуб-Бучынская — Жамбэрк:* Усе грошы атрымалі, дзякуем; з намі — поўны разрахунак; рэшту-ж грошай скіравалі паводле Вашага жаданьня.

*К. Б—к.:* Ваш шчыры ліст аб дажынках і чужых і родных песьнях нажаль зьмясьціць ня можам, бо пакуль наш часапіс выходзе так рэдка, карэспандэнцыі будзем друкаваць толькі выняткова.

*В. І. Х—ка.:* Ліст і вершы атрымалі. Аб вершах найлепей пагаворым асабіста тады, як прыедзеце ў Вільню. Другога абяцанага пісьма яшчэ не атрымалі.

*Білю Я., Надольскаму К.* і многім іншым, згодна з просьбай, пробныя нумары пасылаем.

*А. Задарожнаму ў Францыі:* Ліст Ваш, як бачыце, друкуем, хаця ў адзін нумар ён ня мог нажаль зьмясьціцца. На рэпартажы чакаем.

*А. П—кас у Ліцьве:* За высокую ацэну нашай працы, за пажаданьні і падпіску — шчыра дзякуем.

---

**ВЫПІСЫВАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ „БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС“**
**СКЛАДАЙЦЕ АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСКАГА ЛЕТАПІСУ“**

# О-Ю-ЛЯ-ЛЮ

*Народная*

Allegretto-grazioso. Апр. М. О. ГАЙВОРОНСКІ.






I А О-ю-ля-лю! Дайце-ж мне раду
пад маю ўладу. О-ю-ля-лю!

Б О-ю-ля-лю! Хто-ж табе рада?
Ці ня Ігналька? О-ю-ля-лю!

С О-ю-ля-лю! Што мне па гэтым,
Па даўганосым? О-ю-ля-лю!

II А О-ю-ля-лю! Дайце-ж мне раду,
Пад маю ўладу. О-ю-ля-лю!

Б О-ю-ля-лю! Хто-ж табе рада?
Ці ня Міхаська? О-ю-ля-лю!

С О-ю-ля-лю! Што мне па гэтым,
Ды па цыбатым? О-ю-ля-лю!

III А О-ю-ля-лю! Дайце-ж мне раду,
Пад маю ўладу. О-ю-ля-лю!

Б О-ю-ля-лю! Хто-ж табе рада?
Ці не Андрэйка? О-ю-ля-лю!

С О-ю-ля-лю! Яго люблю я,
За яго пайду. О-ю-ля-лю!


крас – на на ўвесь сьвет! Ма – ла - ды там хлоп – чык
ды ва – лы па – се. Вяс – на крас – на на ўвесь сьвет!
тр
А я – му дзяў – чын – ка ды а – бед ня – се. Вяс – на
marc.
крас – на на ўвесь сьвет! Сядзь – ма ра – зам, хлоп – чык,




Рэдактар-Выцавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.